# Голас Студэнта

АДНАДНЁЎКА.

Цана 10 гр. Вільня, 25 чэрвеня 1937 г. Адрыс Рэдакцыі: Вільня, Завальная 1—1.

## Да ідэолёгіі сучаснага беларускага студэнцтва

Студэнцтва — гэта новая зьмена. Так ёсьць у кожным народзе і грамадзянстве, так ёсьць тымбольш у народзе і грамадзянстве беларускім. Кажам — тымбольш, бо калі маладое інтэлігентнае пакаленьне ў іншых, культурна далей і вышэй стаячых, народаў не абавязкава патрабуе інтэнсыўна брацца за ідэовую працу, дык беларуская і маладая інтэлігенцыя ёсьць сапраўды зьменай старой беларускай гвардыі дзеля далейшай працы на нацыянальнай ніве. Ад старэйшых на маладзейшых у спадчыне пераходзе ў нас абавязак далейшага разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху. Гваранцыяйжа таго, што гэта маладая беларуская інтэлігенцыя сапраўды будзе снуць далей сваю нацыянальную думку і для яе працаваць, зьяўляецца прысутнасьць у яе душы ідэолёгіі і — да таго — ідэолёгіі адпаведнай. Агулам чалавек без ідэолёгіі ў жыцьці мала або і ніякага ня мае значэньня, а тымбольш беларускі малады інтэлігент.

А што-ж гэта такое — ідэолёгія? Агулам кажучы, гэта ёсьць сталы, перадуманы сьветагляд чалавека, гэта яго лёгічна і этычна абаснаванае пракананьне, якое кіруе яго думкамі і дзейнасьцю. Але жыцьцё ёсьць бязбрэжна шырокае і featureнароднае. Дзеля гэтага мала чалавеку мець нейкі агульнажыцьцёвы сьветагляд, агульную ідэолёгію, але трэба яшчэ гэткую мець і ў розных паасобных праявах жыцьця, асабліва жыцьця практычнага, канкрэтнага. Для беларускага студэнта апрача агульна-жыцьцёвай ідэолёгіі патрэбная так-жа ідэолёгія агульна-беларуская, патрэбны агульны ідэовы плян і пагляд, паводле якога належыцца ацэньваць усе праявы беларускай нацыянальнай праблемы і паводле якога належыцца кіраваць усю сваю дзейнасьць на беларускай ніве. Вось-жа калі йдзець аб гэтую нацыянальную ідэолёгію беларускага сучаснага студэнцтва, дык гэткай мае быць *дэмакрацыя*.

Слова дэмакрацыя паходзіць ад двух грэцкіх слоў: *дэмос* — народ і *кратіа* — ўлада, што даслоўна знача народаўладзтва, улада народу. Формы дэмакрацыі могуць быць розныя. Бывае дэмакрацыя беспасрэдная, калі народ сам на сваіх сабраньнях нешта пастанаўляе, як гэта бывала ў старадаўнай Беларусі на народных вечах, а такжа ў Афінах (Грэцыя) ў V ст. прад Хрыстом. Сяньня шырока ёсьць ведамай дэмакрацыя парлямэнтарная, калі народ кіруе сваім краем праз выбраных сабой прадстаўнікоў. Могуць такжа быць і іншыя формы дэмакрацыі. Словам, дэмакрацыя, агулам гаворачы, гэта такі палітычна-грамадзкі лад, дзе ўлада належа да народу і дзе інтарэсы народу ставяцца на першым месцы.

Сутнасьць дэмакрацыі становяць прадусім ідэі вольнасьці і роўнасьці. *Вольнасьць* — гэта прыродны інстынкт чалавека, які зьяўляецца выяўленьнем творчай потэнцыянальнай людзкой энэргіі і адначасна пратэстам на ўсякія грамадзкія перапыны гэтай энэргіі. Дэ-

макрацыя імкнецца да загварантаваньня чалавеку як найбольш вольнасьці, як асабістай (свабода слова, сумленьня, арганізацыі і таму пад.), а так-жа і вольнасьці палітычна-грамадзкай (вызваленьне прыгнечаных і эксплёатаваных клясаў і нацыянальнасьцяў).

Але вольнасьць лёгка можа вырадзіцца ў анархію, развал і бязладзьдзе і, замест дабрадзейства для чалавека, можа стацца для яго прakленствам. Вось-жа, каб вольнасьць ня вырадзілася ў анархію, запабягае *роўнасьць*, якая спыняе развыдранасьць вольнасьці і ставіць ей граніцы і змушае яе спыніцца там, дзе пачынаюцца правы другіх адзінак і другіх грамадзянстваў і народаў. Ужо з самай прыроды чалавека можна судзіць, што ў прынцыпе людзі між сабой роўныя і што дзеля гэтага чалавек над чалавекам панаваць не павінен. Жыцьцёвы аднак досьлед вучыць, што калі людзі сапраўды хочуць быць між сабой роўнымі, дык мусяць падпадацца якой-небудзь уладзе. Але праз гэта дэмакрацыя яшчэ не адракаецца ад спалучэньня вольнасьці з роўнасьцяй. Іменна сынтэза гэтых двух прынцыпаў належа да сутнасьці дэмакрацыі. Роўнасьць звычайна разумеецца, як роўнасьць варункаў жыцьцёвых, якія людзям даюць аднолькавую магчымасьць жыць і разьвівацца.

Ужо з гэтых некулькі дужа агульных увагаў аб дэмакрацыі відаць, што яна ёсьць сапраўды вялікай ідэяй, якая нясе з сабой многа праўды і жыцьцёвай красы. Кідаецца гэта проста з непаканальнай сілай у вочы, асабліва сяньня, калі так страшэнна на сьвеце разнаглелі розныя сілы, што гвалтуюць самыя прыродныя і сьвятыя правы, як адзінак, так грамадзянстваў і цэлых народаў. Ужо з гэтага самага, кажам, відаць так-жа, якую грамадзка-палітычную ідэолёгію мае сабе выбраць, яе трымацца і паводле яе нормаў працаваць, сучасны беларускі студэнт, які часткова ўжо працуе на ніве роднай культуры і які незадоўга, як новая зьмена, будзе прымушаны ўзяць у свае рукі на сваю адказнасьць усю справу беларускага народу.

Але на заканчэньне хоць у некалькіх словах пастараймося сконкрэтызаваць усё тое, што змушае беларускага студэнта трымацца дэмакрацыі, у яе духу гадавацца і працаваць.

Народу трэба несьці *асьвету і веду* для яго патрэбную і даступную. У першую бадай чаргу павінен сяньня рабіць гэта беларускі студэнт усімі тымі спосабамі, якія для яго даступныя. А веду-ж

# Фатаграфія Сямейнікавых

Стары Сямейнік — інтэлігент 80—90 тых гадоў мінулага стагодзьдзя. Тады ён лічыў сябе чыстакроўным расейцам. З уздымам беларускага адраджэнскага руху, як няраз гаварыў „на всякий случай" — дзеці былі беларусамі. Няраз, як прыяджалі з Вільні, прывозілі яны з сабой беларускую прэсу. Праўда, бяз цэнзуры старога, прэса гэта не магла паказацца на вёсцы.

Стары ня мог спакойна глядзець на артыкулы аб сацыяльнай няроўнасьці, або на артыкулы, у якіх гаварылася аб абавязках інтэлігента беларуса.

Усё гэта ён замазваў спэцыяльна ім зробленай для цэнзуры нейкай рыжай няпрыемнай хварбай.

Квэстыю сацыяльную ён замазваў ня дзеля таго, што ня быў старонькам аграрнай рэформы, і меў найбольш зямлі ў вёсцы, а проста фізычна ня мог перанасіць гэтага тэрміну,—яму тады нешта балела пад скабамі, торгала нешта. Наадварот, да праблемы сацыялізму, зразумела, гледзячы на гэта выключна з „свайго" пункту гледжаньня, глядзеў аптымістычна. Будучы яшчэ вучням „рэальнага" прапаведваў: сацыялізм сам прыйдзе... за гадоў сто... Праўда, з матэматыкі у „рэальным" меў двойку і таму можа цяпер маючы гадоў 80 усё прыход сацыялізму адкладаў на тую самую „сотню."

Праўда, стары на вёсцы ня меў ніякага ўплыву. Няраз казаў Сьцяпан Каваль: з Сямейнікаў і гнаявымі віламі апрача патрухі нічога ня вытрасеш. Магчыма, што ён меў на ўвазе толькі старое пакаленьне Сямейнікаў.

— — — — — — —

Гарачым чалавекам быў малады Сямейнік! Перш за праўду быў ён нат' гатоў галаву палажыць! З часам, як патанела праўда усё-ж-ткі ўмеў за яе пастаяць і толькі з гадамі, як бліжэй пачаў дапаўзаць да дыплёму агранома, заўважылі ўсе, а тым-больш на вёсцы, што з маладым Сямейнікам штось робіцца нядобрае, альбо, — варажылі, — прыбліжаецца нейкая хвароба, ці пасада.

гэту свайму народу панясе толькі той студэнт, які добра разумее вялікія ідэі дэмакратызму і які ёсьць грунтоўна імі праняўшыся. Той, хто не разумее імкненьняў і патрэбаў вялізарнай большасьці свайго народу, да гэтага народу не падойдзе і нічога для дабра яго зрабіць ня зможа, астаючыся нікому непатрэбным панічом.

Трэба ўсьведамляць народ беларускі аб палітыцы, соцыялёгіі і эканоміцы. Трэба рабіць-жа гэта так, каб з гэтага ўсьведамленьня народу была сапраўдная карысьць, каб яно было адпаведным да беларускай нацыянальнай ідэолёгіі і адпаведнай да сапраўдных патрэб народу. І тут у першую чаргу пакліканы ёсьць беларускі студэнт, студэнт дэмакрат, які жыве жыцьцём свайго народу і які носе ў сваей душы вялікія дэмакратычныя ідэалы.

Трэба так-жа ўсьведамляць беларускі народ і нацыянальна, паказваючы яму на тое, як вялікім ёсьць фактарам культуры, дабрабыту і агулам поступу нацыянальная сьведамасьць і нацыянальнае жыцьцё кожнага народу. Трэба вучыць народ любіць сваё, але так-жа адначасна і шанаваць чужое. Загразнуць у сваім гоістычным нацыяналізьме, карміцца атруваючымі міязмамі шовінізму, ненавісьцяй чужых нацыяў, ізаляваца ад чужых культур — ёсьць рэчай варожай і шкоднай для беларускага народу і для яго сапраўднага дабра. Адпаведна-ж асьвячаць беларускі народ у нацыянальнай галіне зможа толькі беларускі студэнт дэмакрат, які, маючы незакутую, але адкрытую галаву, шмат далей бача, чым яго ўласнае асяродзішча і дзеля гэтага тымбольш разумна і глыбока любіць свой народ і разумее яго нацыянальныя патрэбы.

Словам, будучыня беларускага народу залежа ад пранікаНьня ў яго народныя гушчы несьмяротных, поўных лёгічнага і этычнага чару, дэмакратычных ідэяў, і ад таго, наскольки гэтым ідэям будзе верным і панясе іх у свой народ беларускае студэнцтва—заўтрашняя новая зьмена пры плузе на беларускай агульна-нацыянальнай ніве...

*Многія матурысты (сткі) Беларусы ня могуць вучыцца ў вышэйшых школах, а з тых што ўступілі, многія ня могуць утрымацца,—бо ня маюць адпаведных матарыяльных варункаў. Заклікаем беларускае грамадзянства чула аднесьціся да справы дапамогі беларускай студэнцкай моладзі, прысылаючы на адрыс беларускіх часапісаў ахвяры, з зацемкай: „на фонд беларускай студэнцкай моладзі“.*

Часамі прапаведваў: як падняць ураджайнасьць, якімі машынамі лепш урабляць зямлю, аж пакуль яму не гарадзілі сяляне лепш расказваць гэта сэквэстратару і далей жылі па-своему, ня дзеля таго, што ня мелі за што купіць карысных машын (думаў так малады Сямейнік), а проста пры вычаіліся жыць бяз хлеба і солі.

А ўжо калі пачалі некаторыя падаваць школьныя д·кляірацыі на беларускую школу, ды ладзіць св‹е прадстаўленьні, агулам, вычуўшы носам непагоду, малады Сямейнік парваў усе зносіны з вёскай.

У паперах зьмяніў і narodowość і „wyznanie,“ толькі засталася ў паперах адна вёска Гарыдаўка, у якой калісь праз непалітычную блізарукую палітыку бацькоў радзіўся.

Зьмяніў ён гэта ўсё лёгка, як і ўсе з радні Сямейнікавых рабілі гэта на працягу усей сваёй гісторыі, от, так, проста нібы належыў заместа зношанага каўнерыка новы, у якім ня стыдна было злажыць візыту і гміннаму пісару, і войту, і нават самому пану камэнданту.

М. Т—к.

## Усходняя казка

*(з прычыны адных перавыбараў)*

— Аллах вялікі і справядлівы! — сказаў раз хітры і дурны Алі вітаючы раніцай свайго ўладара.

Паша Ахмэт сядзеў на саламянцы і думаў. Апошняй ноччу прысьніўся яму сон, што быццам ён раптам стаў таўсьцець, галава выцягнулася да залатых мінарэта Ая Сафія, бруха расло і расло аж затарасавала ўвесь Басфор; адна нага выцягнулася ледзь не да Запарожжа, другая—ледзь відаць быў канец пантофля на вяршынах германскіх Альпаў.

Алі цаглядаў у свайго ўладара гарэм. А так, як у гарэме было шмат баб, якім вечна сьніліся сны, дык Алі як найбольш практычны ў мэтафізыцы пачаў расталкоўваць і сон Ахмэта.

— Будзеш, — казаў, — Паша, вялікім. Аж да дзікіх стэпаў і да Альп пойдзе твая слава. Гарэм твой павялічыцца новымі здабычамі. Яшчэ дзьве нагі і бруха, якое ты бачыў

# Нацыянальная і сацыяльная праблема

У некаторых беларусаў можна спаткаць пагляд, *што сацыяльнае пытаньне для шчырага беларуса не павінна існаваць аж да мамэнту акрэсьленьня свайго нацыянальнага лёсу самым беларускім народам;* пасьля разьвязаньня нацыянальнай праблемы, народ разьвяжа сацыяльную. Справа гэта важная і таму я лічу патрэбным забраць слова на старонках гэтага часапісу.

Самае найважнейшае для запраўднага беларуса – гэта *дабрабыт і воля беларускага народу,* а калі інтарэсы паасобных групаў супярэчныя паміж сабою, то трэба выбраць інтарэсы абсалютнай большасьці народу

Справа нацыянальная цесна зьвязана з сацыяльнай і наадварот. Прыгнечаны нацыянальна край заўсёды адстае ў эканам чным разьвіцьці.*) А дзе слабейшая прамысловасьць, там меншыя магчымасьці даплыву рабочых рук з вёскі ў горад. Адсюль — павялічэньне зямельнага голаду.

Справа працы, безрабоцьця, зямлі і інш. зьяўляюцца ня толькі сацыяльнымі праблемамі, але ў пэўным сэнсе і нацыянальнымі. Калі прымем пад увагу, хто валадае зямельнымі абшарамі, дык убачым яшчэ больш сплёт зямельнага і нацыянальнага пытаньня.

Аднак вырашэньне нацыянальнай праблемы само сабою ня можа поўнасьцю вырашыць сацыяльную.Аб гэтым сьведчыць гісторыя адраджэньня кожнага народу. Ці-ж у Літве, Эстоніі, Польшчы ня існуе сацыяльная праблема? Праўда, існуе яна не для кожнага паляка, ліцьвіна, ці эстонца. У кожным народзе ёсьць людзі эканамічна абясьпечаныя. Нашто-ж ім ламаць галаву над вырашэньнем сацыяльнай праблемы, тымбольш, што разьвязка такой выпала б не на іхнюю карысьць, а хутчэй на шкоду? Яны гэтую справу могуць адлажыць на пасьля. Сярод беларусаў ёсьць таксама больш-менш абясьпечаныя людзі, яны могуць выказваць зьдзіўленьне пры адным толькі слове „сацыяльна", могуць адкладаць гэтую праблему аж да часу, „калі народ задэцыдуе аб сваім лёсе".

Аднак для абсалютнай большасьці народу сацыяльная праблема існуе і вымагае як найхутчэйшага вырашэньня. Для некаторых яна пераходзіць у зусім простае пытаньне: як дастаць заўтра кусок хлеба? Для такіх цэнны грош, вязка травы для каровы, корчык дрэва на апал. Яны за гэткія дробязі змагаюцца кожны дзень, прагнучы хоць часткова палепшыць свой быт. Хто гэта ўсё нэгуе, адносіцца да такой будзёншчыны з высака, папанску, той ня можа здабыць прыхільнасьці збоку шэрага чалавека.

Для народных мас нявыгадна адкладаньне сацыяльнай праблемы яшчэ таму, што з мамэнту, як толькі будзе вырашана нацыянальнае пытаньне, зразу-ж павялічыцца беларуская праслойка вышэйшых клясаў коштам навасьпечаных „истинно" і „z krwi i kości" беларусаў, у каторых цяпер дзеля чыста прыбыльных мэтаў перамалёвана нацыянальнае аблічча. Яны высока патрыятычным тонам будуць адкладваць сацыяльнае

*) Аўтар гэтага артыкулу слова сацыяльны ўжывае ў значэньні звужаным, бо тасуе тут яго бадай выключна толькі да жыцьця эканамічнага.—Рэд.

---

у сьне, азначае, што Аллах апекаваўся табой праз тры вякі, а галава пераваліць аж на чацьверты.

Ахмэт усьмяхнуўся задаволены. Не,кажа, змарыўся я правіць стараной, а таму, што я бяздзетны,ты,Алі, будзеш маім заступнікам.

— Воля твая! — адказаў Алі прытачыўшы пару цытат з карану, — але мо' народ ня згодзіцца, нешта ён неспакойны, Паша. Кажа народ, што ты выгнаў з палацу падарожнага не накарміўшы, другога абгаварыў несправядліва, ды быццам веру прадзедаўскую хочаш замяніць на іншую і запрадаць усіх у ясыр...

Ахмэт хахатаў аж чуб яго тросься, быццам апалены на сонцы банчук.

— — — — — — —

Было вялікае сьвята, калі ўсе прававерныя зыйшліся на нараду: як жыць далей? Паша Ахмэт гаварыў прамову.

— ...Што сонца ўсходзіла на ўсходзе, і заходзе на захадзе – гэта мая заслуга, выпрасіў я ў Аллаха — гаварыў Ахмэт.

А народ слухаў мудрай прамовы і хваліў Пашу: — важны Паша чалавек, хай яму будзе лёгкая ўсякая сьмерць. І баючыся за пашава здароўе і каб не падарваўся ад дабрадзействаў, якімі асыпаў прававерных і меў намер яшчэ асыпаць—калі ня сам, дык праз свайго заступніка Алі, – народ выбраў другога Пашу.

Засумавалі ў гарэме адаліскі.

Раз была ціхая ноч. Месяц вісеў зачапіўшыся за хмарку над Басфорам. Сядзіць на беразе Ахмэт. Варожа яму з зораў хітры варажбіт.

— Ня можа тваё сэрца, Паша, пагадзіцца, што цябе, адзінага мудраца, не ацаніў народ па заслугах.

— Мала я іх рэзаў... —дадаў Паша Ахмэт.

— Аллэх вялікі і ў адным нават найразумнейшым чалавеку ня зьмесьціцца - цягнуў хітры мудрэц, — забі тысячу людзей— у тысячу раз будзе і Аллах меншым...

Нехта галасіў у асірацеўшым гарэме ды на Басфоры кракталі жабы...

Т.

пытаньне, каб толькі „не аслабіць бацькаўшчыну— Беларусь“.

Гора тэй беларускай інтэлігенцыі, якая пройдзе міма так важнай праблемы, як сацыяльная і зразумее інтарэсы народу аднабока. Яна ня знойдзе послуху сярод народных гушчаў, адарвецца ад народу, народ будзе глядзець на яе, як на чужынцаў і пойдзе разам з тымі, хто павядзе яго да разьвязаньня як нацыянальнага, так і сацыяльнага пытаньня.

У адраджэнскім руху польскага народу вялікую ролю адыграла П.П С. Ці яна нэгавала сацыяльную справу? Не. Іменна дзеля таго яна больш памысна вяла польскае работніцтва да нацыянальнага вызваленьня. Можа скажаце, што эндэцыя, для каторай сацыяльнае пытаньне амаль не існавала, адыграла такую ролю? У эндэкаў максімальным жаданьнем была куртатая аўтаномія. Расісты, біжыдоўцы і дзесятай долі не зрабілі для польскага народу таго, што зрабіла П.П.С.

*Значыць, імкненьне да разьвязкі сацыяльнае праблемы ня толькі што не расьцярушвае нацыянальна-адраджэнскія сілы, але гэтыя сілы ўмасаўляе, робіць іх больш боездольнымі.* Можна толькі спрачацца, як разьвязаць сацыяльную праблему.

Такі самы ўплыў мае нацыянальная праблема на сацыяльную. Адна аднэй ня школзіць, а дапаўняе. Гэта дзьве цесна зьвязаныя паміж сабою справы, якія тычацца аднаго і таго народу, а іх поўнае вырашэньне будзе станавіць аб дабрабыце і волі народу.

Іменна ў сягоньняшніх варунках беларускі народ павінен увесь стаць да барацьбы за нацыянальныя правы. Кожны інтэлігент, кожны сьведамы беларус павінен усё зрабіць для справы нацыянальнага ўсьведамленьня, што толькі можа. Гэткіх сыноў беларускі народ будзе шанаваць незалежна ад іх паходжаньня. Мы павінны выхоўваць народ у пашане да слаўных сыноў яго (Скарына, Каліноўскі, Колас, Купала і інш.) і слаўных нашых традыцыяў.

Але таксама мы не павінны нэгаваць сацыяльнай праблемы, бо самае важнейшае для запраўднага сына нашай бацькаўшчыны — гэта *ўсебаковае дабро народу.*

Мы захапляемся вясной цьветабоем, чароўнымі пушчамі, цудоўнай Сьвітазьзю, Нараччу, з павагай і задумай аглядваем старадаўныя замкі, захапляемся хараством нашай прыроды, любім сваю мову, песьні, культуру, свой край. Але трэба нам яшчэ навучыцца любіць свой народ. А любіць народ — гэта зн. імкнуцца да ўсебаковага дабра для яго, як сацыяльнага, так і нацыянальнага. Трэба быць чулымі да патрэб народу, жыць яго пажаданьнямі, кожны дзень разам з ім змагацца за паляпшэньне жыцьця.

Тады народ ацэніць сваю інтэлігенцыю. Тады мы будзем сапраўднымі патрыётамі. Хто гэтага ня зробіць, стане чужым для Бацькаўшчыны і Народу.

*М. Б—лы.*

## Урад і Рэвізыйная Камісія Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.



Сядзяць зьлева на права: У. Клім, В. Жукоўская, А. Дасюкевіч (старшыня ўраду), Трафімучанка, М. Канцэлярчык. Стаяць: А. Засім, Г. Сухая і Я. Каліцкі.

# Student i narod

Pačnu taniec, jak kažuć, ad piečy. Napradvieśni „Šlach Moładzi" i „Беларускі Летапіс" zaklikali biełaruskaje hramadzianstva da zboraŭ pomačy biełaruskamu studenctvu i vučnioŭskaj moładzi. Choć hetaja sprava ŭ nikatorym sensie dalikatnaja, bo tyčycca kankretnaj dla nas dapamohi z boku narodu, adnak nia budziem ubiracca ŭ šaty skromnaści, — razhledzim reč prosta i adkryta.

Pomač takaja patrebnaja. Viadoma, jak ciažka prychodzicca zdabyvać vyšejšuju aśvietu niekatorym studentam. Stałaje niedajadańnie, paŭtarajučyjasia vykreślivańni z liku studentaŭ za niaŭznos apłaty za navuku, usilenaje šukańnie lekcyjaŭ, ci inšaj zarabkovaj pracy, voś varunki, u jakich, budučy časam prosta biaz nijakaj dapamohi zdomu, biełaruski student ciarebić šlach da vyšejšaj navuki. Heta budni rečaistaści. A kolki jošč biełarusaŭ, akončyŭšych siarednija škoły, z maturaj u kišani, katoryja navat nie advažvajucca prykładać starańniaŭ dla pastupleńnia na universytet, viedajučy, što dla zdabyvańnia vyšejšaje aśviety ŭ kišani pavinna być aproč maturalnaha paśviedčańnia jašče štości inšaje. Adzinki zdolnyja i karysnyja dla narodu. Voźmiem, naprykład maładuju paetku Ninu Taras. Chacieła-b pastupić na ŭniversytet. I tolki žudasnyja mataryjalnyja varunki nie pazvalajuć. Niezamožnaść kasuje prava da vyšejšaje aśviety.

Na ŭsio biełaruskaje nasialeńnie ŭ Polščy majem žmieńku ŭ siarednich i vyšejšych školach biełaruskaje moładzi Ci ž biełaruskaje hramadzianstva nia moža stvaryć minimalna znosnyja varunki da navuki? Mahčymaść zusim realnaja. Adnak zakliki ŭ presie nie znajšli vodhałasu ŭ narodzie Čamu? Heta važnaje dla nas pytańnie. Na pieraškodzie biednaść narodu? Nie: — pa hrošu, pa dva i ŭžo źbiarecca pavažnaja suma. Brak achviarnaści ŭ narodzie? Fakty kažuć — naš narod patrapić być achviarnym. Hałoŭnaja pryčyna takoha stanu ľažyć u niepapularnaści biełaruskaha studenta siarod narodnych huščaŭ. Časta nas traktuje sielanin, jak pankoŭ My słaba źviazany z narodam, mała pracujem u im, u toj čas, jak abstaviny kładuć na nas vielmi pavažnyja zadańni Heta pavinna być dla nas hałoŭnaj lekcyjaj z vyšej skazanaha. Mała jošč na śviecie narodaŭ, jakija b mieli tak niaznačnu ju prasłojku intelihiencyi, jak biełarusy pa hety bok ryžskaje miažy Dyk nia dziva što pierad biełaruskim studentam stajać značna bolšyja zadańni, čym pierad polskim, žydoŭskim, ci ukrainskim. Jaho ŭdzielnaja vaha ŭ narodzie pavinna być kudy bolšaja. Ci-ž takija vyvady my robim u štodziennaj praktycy? Daloka nie. Ab hetym śviedčyć choć-by małaja naša papularnaść u narodzie. Ci šmat my pamahajem starejšamu arhanizavanamu biel. hramadzianstvu? Ci naležna vykarystyvajem našy vyjezdy z Vilni — leta, Kaladnija i Vialikodnija śviaty? Hetyja pytańni pavinien zadać sabie kožny biełaruski student, a adkazać achviarnaj praktykaj asabliva ciapier — padčas letnich kanikułaŭ.

Raźjaždžajemsia. Jedziem u narod. Pierad nami vysoŭvajecca rad zadač. Ale samaja hałoŭniejšaja — heta kulturna praśvietnaja praca. Treba dobra zrazumieć kožnamu z nas, što ŭ hłušy ciemry, pry nizkim uzroŭni nacyjanalnaj śviedamaści narodnych mas biełaruskaja ahulna-nacyjanalnaja sprava nia pojdzie chutka ŭpierad; sa śviadomym i kulturnym narodam zaŭsiody bolš ličacca.

Kulturna-aśvietnaja praca, zrazumieła, pavinna vieścisia ŭ rodnaj movie, jak bolš dastupnaj dla narodnych mas. Kultura ŭ pieršuju čarhu biełaruskaja, a potym ahulna-ludzkaja, bo my sami biełarusy, dy heta naša pryrodnaje prava i abaviazak. Treba vykarystać usie formy i mahčymaści pracy na kulturnaj nivie.

Pavažnym uśviedamlajučym i arhanizujučym čynnikam musić być peryjadyčnaja presa. Svaju misiju jana vykanaje tolki tady, kali budzie dachodzić da samych šyrejšych narodnych huščaŭ. Voś-ža kožny student musić parupicca, kab znajści dla časapisaŭ čym najbolš stałych padpiščykaŭ i kolporteraŭ. Musim pryvučyć moładź čytać presu hrupova, kab lepš raźbiracca i ŭsvojvać źmiest dy rabić vyvady dla dziejańnia z aktualnych artykułaŭ i zaciemak.

Prykładnaj kulturnaj rabotaj treba ŭkaranić siarod moładzi tradycyju chatniaha navučańnia.

Śvincoŭku i razboi treba zamianić choć prymityŭnym sportam. Praktyka nas vučyć, što kuplenaja na vioscy sietkaŭka, jak mahnitam, pryciahvaje da siabie ŭsiu moładź,—kudy! navat starejšych mužčyn.

Dzie mahčyma studenty pavinny być inicyjatarami i arhanizatarami biełaruskich spektaklaŭ, publičnych odčytaŭ z historyi Biełarusi, litaratury i inšych halin viedy. Niama dazvołu na publičny odčyt — pravodzim hrupavyja hutarki.

Moładź lubić deklamavać vieršy, hrupovuju śpieŭku, vystupać na scenie, nažal nie zaŭsiody ŭmieje. Choča navučycca. Vielmi dobra było-b, kab studenty pamahli, arhanizujučy niešta ŭ rodzie kursaŭ pa hetych pytańniach Nia ŭdasca štości vialikaje — sarhanizujem mienšaje, a probavać treba.

Treba ŭ narodzie vyjavić kulturna-aśvietjny aktyŭ, ludziej zdolnych i addanych hetaspravie, katoryja mahli-b pravodzić nadalej začatuju samaadukacyju, asabliva poznaj vosieńniu i zimoju, padčas doŭhich viečaroŭ, kalnas, studentaŭ, na vioscy nia budzie.

Kožny student pavinien być aficeram na kulturna-aśvietnym froncie. Nie adzin z nas nia zmoža vytłumačyć svaju biazdziejnaść via-

# Biełaruskaja pieśnia ŭ vykanańni M. Zabejdy-Sumickaha.

Biełarus śpiavak, — artyst eŭrapejskaje slavy, tenar-solist Miłanskaj i Paznanskaj opery— šyroka viedamy i siarod biełaruskaha hramadzianstva.

Jaho kancerty — trojčy ŭ Vilni i ŭ Biełastoku, a tak-ža ŭ Varšavie i śpievy ŭ Radyjo — daloka raźnieśli slavu našaj biełaruskaj narodnaj miłahučnaj pieśni.



MICHAŁ ZABEJDA-SUMICKI

M. Zabejda-Sumicki svaim mastackim śpievam, ahułam kažučy, čaruje słuchačoŭ, a słuchača biełarusa vykanańniem biełaruskaj narodnaj pieśni prosta hipnotyzuje.

Słušna pisaŭ adzin z mnohich recenzentaŭ (niebiełarus i nie ŭ biełaruskaj presie) ab vykanańni M. Zabejda-Sumickim biełaruskaj pieśni, što chiba i sam jaje tvarec, biełaruski narod, dasiul nia viedaŭ ab krasie svajho tvoru.

I sapraŭdy, M. Zabejda-Sumicki adtvaryŭ poŭniu krasy našaj pieśni.

Tyja, što nia čuli pryhožstva biełaruskaj pieśni ŭ vykanańni Zabejdy-Sumickaha biespasredna, mohuć heta pačuć z hramafonnych plitaŭ firmy Odeon-His Master's Voice-Columbia, na jakich „zapisany" biełaruskija narodnyja pieśni z akampanijamentam arkiestry ŭ vykanańni našaha słaŭnaha śpievaka.

Naśpiavaŭ jon na hramafonnyja plity hetkija pieśni: plitka 271378: „Jak pamiorła matulka" i „Rabina"; pl. 271379: „Małady dubočak" i „Čamu mnie nia pieć"; pl. 271380: „Oj rana, rana kury zapieli" i „Lacić saroka"; pl. 271381: „Ščuka ryba ŭ mory" i „Koń biažyć ziamla dryžyć"; pl. 271382: „Lavonicha" (nac. taniec) i „A ŭ lesie lesie".

Za heta ŭsio čeść i slava Michału Zabejdzie-Sumickamu — našamu biełaruskamu narodnamu śpievaku!

*j.*

# Chronika

**Z dziejnaści Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu U.S.B. ad 1 stud. 1937 h.** *17 stud.* Karystajučy z pryjezdu ŭ Vilniu viedamaj biełaruskaj paetki Natalli Arsieńnievaj, katoraja stała prabyvaje na čužynie, B.S.S. i T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry U.S.B. zładzili aŭtarski viečar paetki. Referat ab litaraturnaj tvorčaści paetki pračytaŭ dr. St. Stankievič, a paśla sama paetka pračytała rad niedrukavanych jašče vieršaŭ, jakija sabranyja pryjmali hučnymi vopleskami. Na zakančeńnie biel. studenty padali paetcy pryhožy bukiet žyvych krasak.

*30 stud.* U pamieškańni B.S.S. stud. V. Papucevič pračytaŭ referat ab biełaruskaj dziejnaści Šafnagiela. Pa referacie adbyłasia dyskusija.

*6 lutaha* Biel. Stud. Sajuz z Litoŭskim i Ukrainskim Stud. Sajuzami ładziŭ tradycyjnuju supolnuju viečarynu.

*14 sakavika* adbyŭsia ahulny hadavy spravazdaŭčy schod i pieravybary ŭładaŭ B.S.S. na nastupny hod. U skład novaha Uradu B.S.S. uvajšli: Adam Dasiukievič—staršynia, M. Kancelarčyk, V. Žukoŭskaja, U. Klim i A. Zasim—siabry Uradu. U skład Revizyjnaj Kamisii vybrali: T. Trafimavičanku, H. Suchuju i J. Kalickaha.

*3 krasavika* V. Skłuboŭski čytaŭ referat na temu: „Mataryjalistyčny i idealistyčny śvietapahlad". Pa referacie była dyskusija.

*17 krasavika* adbyŭsia dyskusyjny viečar nad vydavanym V. Papucevičam časapisam p. n. „25 Сакавіка".

*5 traŭnia* była sarhanizavana tavaryskaja viečaryna „Čyrvonaje Jaječka". Impreza heta nasiła ŭnutrany charaktar i adbyłasia vykľučna ŭ prysutnaści siabroŭ B.S.S.

likimi piaraškodami. Nia treba zakryvać vočy — z pieraškodami tut spatkajemsia dy nie z małymi, ale heta nie aznačaje, što ničoha nia možna rabić. Našyja zadačy — „to doŭh prad narodam, to doŭh razumieńnia, jakoje začerpali my". Kali doŭh urehulujem, narod inakš adniasiecca da nas. Kožny syn jaho z hordaściu skaža — heta našy studenty.

*T. S.*

*16 traŭnia* B. S. Sajuz zładziŭ kancert Michała Zabejdy - Sumickaha i Biełaruskaha Choru kiravanaha R. Šyrmaju. Kancert prajšoŭ duža ŭdała. Ahramadnaja sala Śniadeckich na U.S.B. była pierapoŭniena prysutnymi. Kancert — heta adzinaja najpavažniejšaja impreza ŭ dziejnaści B. S. S.

*27 traŭnia* B.S.S. ładziŭ vybieh u Verki ŭ prysutnaści davoli vialikaj kolkaści siabroŭ B.S.S. i maturystaŭ Vil. Bieł. Himnazii.

— Vilenskija vajavodzkija administracyjnyja ŭłady piśmom z dnia 7-ha červienia paviadomili Biełaruski Studencki Sajuz, što siabrom jaho nie dazvalajecca nasić sajuznych šapak i bantaŭ (istužak).

Šapki i istužki mieli nacyjanalnyja bieła ruskija kolery i siabry Sajuzu ŭžyvali ich užo niekalki hod.

Urad Bieł. Stud. Sajuzu pastanovu vajavodzkich uładaŭ zaskaržaje ŭ ministerstva. Treba adznačyć, što ŭ adnosinach da studentaŭ inšych nacyjanalnaściaŭ vajavodzkija ŭłady inačaj adnieślisia, imienna dazvolili im nasić ichnija arhanizacyjnyja adznaki.

**Z dziejnaści T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry U.S.B. u Vilni ad 1 stud. 1937 h.**

*7 sakavika* ŭ VI zali haloŭnaha budynku U.S.B. ks. Adam Stankievič pračytaŭ referat na temu: „praf. M. Babroŭski. jaho žyćcio, dziejnaść i biełaruskaść".

*13 sakavika* adbyŭsia ahulny hadavy schod i pieravybary ŭładaŭ T-va. U skład novaha Uradu ŭvajšli: Antoś Šukiełajć — staršynia, A. Katkavičanka, V. Žukoŭskaja, St. Narušević i M. Smarščok — siabry ŭradu.

*11 krasavika* ŭ VI zali haloŭnaha budynku U.S.B. dr. Janka Stankievič pračytaŭ referat na temu: „Niekatoryja mamenty ŭ historyi Biełarusi".

*18 krasavika* T-va arhanizavała ekskursiju ŭ Biełaruski Muzej im. Ivana Łuckieviča, *21 krasavika* ŭ Archeolohičny Muzej U.S.B. i Muzej Ikonografii pry Biblijatecy im. Wrubleŭskich, a 25 kras. u Pryrodaviedny Muzej U.S.B.

*9 traŭnia* ŭ zali Instytutu Klasyčnaje Archeolohii U.S.B. inž. L. Dubiejkaŭski pračytaŭ referat na temu: „Reforma dzieravianaha budaŭnictva".

*30 traŭnia* T-va ładziła ŭračysty referat pryśviečany 20-tym uhodkam śmierci M. Bahdanoviča. Referat čytaŭ A. Łuckievič, a Fr. Alachnovič i H. Suchaja prarecytavali cely rad tvoraŭ paety.

**Z. Z.**



# Праца над чысьцінёй беларускага языка.

Язык ёсьць вытварам апрычонай псыхікі народу, а тым самым ён найдаражэйшы скарб народны. Ёсьць родны язык аднчасна відавочным і найлепшым вязьмом, злучаючым усіх сяброў данага народу. Страта роднага языка найчасьцей вядзе да сьмерці й сам народ. Дзеля таго такі дарагі кожнаму народу яго язык. Жыды, што забыліся свой язык болей як дзьве тысячы год назад, ускрашаюць цяпер яго, вучацца з кніжак. Падобна робяць Ірляндцы, каторых толькі невялічкая часьць захавала сваю родную мову. Іншыя народы не патрабуюць такога героізму, каб захаваць родны язык. Але, як кожны скарб, родная мова, язык вымагае пашаны і ўважных да сябе адносінаў. Дык зразумела, чаму ўсе сьвядомыя й сьветлыя народы ня толькі пазнаюць навукова свой язык, але й працуюць дзеля практычных яго патрэбаў, рупяцца забясьпечыць яго адпаведнымі тэрмінамі на новыя поймы, усьцерагчы яго ад скрыўленьня чужымі ўплывамі і інш. Арганізаваны дзеля гэтага адумысловыя таварыствы, установы, выдаюцца пасьвячоныя практычным патрэбам мовы часапісы. Гэта робяць народы, языку каторых нічога не пагражае, як прыкладам Немцы, Французы, а із Славянаў асабліва рупяцца аб родная мове Чэхі й Палякі. Дык і пагатове павінны руціцца аб чысьціні свае мовы мы Беларусы, бо наш язык пераживае цяперака вельмі адказную й небясьпечную пару ў сваёй гісторыі. Яму пагражаюць чужыя ўплывы, тым небясьпячнейшыя, што напіраюць, як на мову нашае інтэлігенцыі, так і на мову простага народу. Калі не бараніцца, дык гэтыя ўплывы запсуюць нашую мову, скалечаць яе, а нат і зусім зьністожаць. Тут асабліва патрэбна навуковая праца з аднчасным практычным выкарыстаньнем даных навукі.

**К. Л—іч.**

Siabrom Bieł. Stud. Sajuzu, Marysi Chinievičancy i Viktaru Vojtanku, z pryčyny Ich žanimstva, ščyryja pažadańni składaje

**Urad Bieł. Stud. Sajuzu.**

Vilnia, 20.VI.37.

# Padziaka

Pavažanamu Hramadzianinu Advakatu Paŭłu Śvirydu za hrašovuju dapamohu składaje ščyruju padziaku

**Urad Bieł. Stud. Sajuzu.**

Vilnia, 20.VI.37.

Выдавец: В. Ярмалковіч. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні.